Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Прыймо інтэрэсантаў: | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: |
| --- | --- | --- |
| Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г.<br>у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.;<br>за 3 месяцы — 75 грош.;<br>за 1 месяц — 30 грош. |

№ 21 (73) | Вільня, 3-га верасьня 1935 г. | Год 3-ці.

## Каго выбіраць?

У папярэднім нумары „Роднага Краю" мы ўжо разважалі над гэтым пытаньнем усебакова, аднак да ніякага конкрэтнага вываду прыйсьці не маглі, бо-ж ня мелі тых дадзеных, якія патрэбны для кожнага кандыдата на пасла. — Ня ведалі як кожны з паасобных кандыдатаў заглядаецца на справу палітычных правоў народу, як ён адносіцца да балючых патрэбаў Беларусаў у галіне заспакаеньня іх культурна-нацыянальных патрэбаў, ды ўрэшце ня ведалі аб чыіх гаспадарчых інтарэсах ён будзе рупіцца ў Сойме: ці абшарніка, ці работніка і селяніна?

Ад адказу на пастаўленыя пытаньні залежала-б канчальнае рашэньне, на **каго галасаваць 8 верасьня выбаршчыку—Беларусу.** Аднак дасюль мы не бачылі ані воднае публічнае дэкляарацыі (ні ў польскай ні ў іншай прэсе) тых, хто даў сваю згоду рэпрэзантаваць насельніцтва нашага краю. Праўда „Кур'ер Віл." падаў некалькі жыцьцяпісаў (біографій) тых кандыдатаў на паслоў, якія йдуць па нашых вакругох, але гэтага мала, бо-ж з жыцьцяпісу, які падае да таго нават ня сам кандыдат, а рэдакцыя газэты, нельга даведацца аб поглядзе таго ці іншага кандыдата на пастаўленыя намі пытаньні. Пры папярэднім выбарным законе, калі кандыдаты йшлі ад пэўных палітычных партыяў гэта было не патрэбна, бо-ж праграма кожнай палітычнай партыі ўсім была ведама, але цяпер, калі кандыдатура пасла выстаўляецца паасобнымі учасьнікамі прадвыбарных сабраньняў, такая **дэклярацыя з'яўляецца неабходнай.**

Каб сярод кандыдатаў на паслоў былі беларусы, дык зразумела, што і бяз іх дэклярацыяў мы ведалі-б аб іх палітычна-грамадзкіх паглядах і выбар кандыдата на пасла, за якога трэба было-б галасаваць, быў-бы для нас, Беларусаў, лёгкі. Дзеля таго-ж, што сярод кандыдатаў на паслоў, як мы ўжо зазначалі, няма **ані воднага беларуса**, пастараемся бесстаронна схарактарызаваць некаторых кандыдатаў палякоў, бліжэй ведамых нашай рэдакцыі на падставе іх дасюлешняй грамадзка-палітычнай працы і адносінаў да беларускай справы наагул.

1. Грам. К. Акуліч (па польску пішацца Kazimierz Okulicz) — галоўны рэдактар газэты „Кур'ер Віл.", публіцыст, былы пасол Сойму. Належыць да групы Віленскіх дэмократаў, цікавіцца пытаньнямі краёвымі наагул, а беларускім у асаблівасьці, прыхільны да Беларусаў і староннік таго, каб Беларусам была дадзена магчымасьць культурна-нацыянальнай аўтономіі.

2) Праф. С. Владычка (па польску пішацца: Stanisław Władyczko) выдатны вучоны і добры арганізатар, дэмократ, але палітычнымі пытаньнямі не займаўся. Быў даўжэйшы час апякуном Беларускага Студэнскага Саюзу і адсюль добра ведамы беларускай студэнскай моладзі і старэйшаму грамадзянству як сымпатык беларусаў.

3) Грам. С. Гэрмановіч (па польску пішацца Stanisław Hermanowicz) бухгальтэр — тэхнік — чалавек працы, які ўласным мазалём прабіваў сабе жыцьцёвую дарогу. Да Беларускага пытаньня адносіцца прыхільна.

4) Ген. Жэлігоўскі (папольску пішацца Lucjan Żeligowski) —палітычныя яго погляды нам ня ведамы. Найлепш знаюць яго тыя сяляне, якія стыкаліся з ім на грунце гаспадарчым. Як адносіцца да культурна нацыянальных патрэбаў беларусаў — ня ведаем.

5) Б. пасол В. Камінскі (папольску пішацца Władysław Kamiński) шмат працаваў будучы паслом у папярэднім Сойме ў галіне гаспадарчай. Асабліва дбаў аб інтарэсы малазямельнага сялянства. Дэмакрат. Пагляды яго на беларускую справу бліжэй нам няведамы.

Акром пералічаных кандыдатаў добра ведамы рэдакцыі на падставе іх палітычнае дзеяльнасьці ды публічных выступленьнях у прэсе б. паслы: **Станіслаў Мацкевіч** (папольску — Stanisław Mackiewicz) **і Барыс Пімонаў** (Borys Pimonow). **Адзін паляк-шовініст, другі маскаль — абодвы прадстаўнікі багачоў, монархісты, ведамыя сваімі варожымі выступленьнямі супроць Беларусаў.**

Пра рэшту кандыдатаў нічога сказаць ня можам, бо іх ня ведаем, а ніякіх дэкларацыяў ад іх ня маем. Можа яны добра ведамы на мясцох, але аб гэтым няхай рашае кожны выбаршчык паводле свайго сумленьня, памятаючы аб тым, каб была пэўнасьць, што выбраны кандыдат ня будзе шкодны для беларускае справы.

## Як выйсьці з тупіка.

Няраз балючая праўда куды лепшая і дае больш пажаданыя рэзультаы, чымсь хаваньне і маскаваньне недахопаў; бо-ж праўда гэная спрычыняецца да пазнаньня балячак, з каторымі пасьля можна і трэба змагацца. Гэтак дыктуе цьвёрдая лёгіка жыцьця.

У жыцьці народаў, якія адсталі ў сваім разьвіцьці ад іншых, часта з прычын ад іх беспасярэдна незалежных, спатыкаем такія мамэнты, якія вымагаюць энэргічнай дзеяльнасьці, а пазнаньне балючай праўды паказвае, якімі мэтодамі дадзенае грамадзянства павінна ў сваёй дзеяльнасьці паслугоўвацца. Эволюцыя ці нават рэволюцыя, якія творацца пад уплывам тых ці іншых фактаў ды разумовых кірункаў, маняцца, згодна з гэтымі кірункамі, будаваць новыя вартасьці на пагарэлішчы старых. Але жыцьцё ёсьць жыцьцём і найчасьцей ідзе яно ўласнымі сьцежкамі, ня тымі, да каторых хацела-б яго скіраваць творчая думка. Ня гледзячы аднак на гэта, тэорытычная аснована згуртаванага высілку, які рэалізуе тэорыю, усёжтакі мае свае глыбокія вартасьці, бо-ж грамадзянства ўзгадованае на ёй адбівае пэўную эпоху, каторая атрымоўвае такім чынам асобнае, індывідуальнае аблічча, пераходзячае ў гісторыю.

Калі прыгледзімся да сучаснай беларускай сапраўднасьці, то нажаль — прыняўшы аксыёму, што праўда лепшая ад найлепшай маны — мусім сьцвердзіць, што ў разьвіцьці сваім мы значна адсталі ад іншых народаў і дзеля гэтага працу, якую маем выканаць, мы павінны вясьці вельмі й вельмі энэргічна. Аднэй рамантычнай думкай мы шмат не дасяганем аднэй-жа ізноў пазытыўнай—мы таксама мала здабудзем, бо першая пабуджае эмоцыянальную (пачуцьцёвую) сфэру душы грамадзянства, дае волю і веру ў дзеяльнасьць бяз рэальных магчымасьцяй, другая-ж, разьвіваючы пазытыўныя і матэр'яльныя вартасьці, не дае веры і энтузыязму малой групе ў барацьбе з групай пераважаючай.

Разбуджаная ў пачатку XX стагодзьдзя беларуская нацыянальная сьведамасьць сваімі перадавымі адзінкамі, пранікла і пранікае ўсьцяж глыбей у масы, каб вырваць іх з апатыі і прыгнечаньня. Гэтыя перадавыя адзінкі, якія дагэтуль становяць яшчэ нязначны працэнт беларускага народу ў Польшчы, дасягнулі ў сваім разьвіцьці вышыні заходня-эўрапейскага роўня, як пэўнага роду мэты, да каторай рэшта грамадзянства павінна ўсімі сіламі падняцца, павялічваючы такім чынам аснаўны капітал для лепшай долі Беларусаў.

Ацаняючы гісторыю беларускага адраджэнскага руху праз прызму сучасных вартасьцяй, трэба бязумоўна сьцьвердзіць, што шлях да адраджэньня выбраны быў правільны, бо праца пачалася ад пашырэньня асьветы і закладаньня школаў, каторыя сталіся варштатам сучаснай асьветнай і ўзгадаваўчай думкі. Сям'я гэтую ролю споўніць не магла, бо ня мела для гэтага адпаведных варункаў.

Разбуджаныя надзеі і лятуценьні беларускага народу ня зьдзейсьніліся. Пасьля сусветнай вайны, Вэрсальскі і Рыскі трактаты падзялілі Беларусаў трыма межамі новых дзяржаўных арганізмаў, у граніцах каторых беларускі адраджэнскі рух імкнецца да сваёй мэты132 рознымі дарогамі, залежнымі ад унутраных варункаў і соцыяльных ладаў гэтых дзяржаваў. Асабліва розьняцца між сабой гэтыя шляхі і адраджэнская праца Беларусаў у Б.С.С.Р. і Польшчы, хаця пэўнае, невялікае праніканьне ўплываў існуе.

Гэнае разьбіцьцё Беларусаў на два сьветы паглыбляецца ўсьцяж і калі такі стан рэчы патрывае даўжэй, створыць ён два зусім розныя характарам, культурай, а нават і палітычна-соцыяльнай думкай грамадзянствы. Аб гэтым кожны беларус павінен добра памятаць. У межах Польшчы мы, Беларусы, жывем у параўнаньні з усім насельніцтвам вялікай групаю і дзеля гэтага ў рамах гэтай Дзяржавы, мы, як поўнапраўныя грамадзяне, маем права і хочам будаваць уласнымі рукамі сваю будучыню.

І тут якраз нашая сапраўднасьць вельмі сумная. Зьяўляемся элемэнтам землеробскім, пабзбаўленым капіталу, уласных вытворчых сродкаў, цесна-злучанай грамадзкай групы і агульнай творчай думкі. Нашае арганізацыйнае жыцьцё апіралася дагэтуль фармальна, — з некаторымі выняткамі, — на лятуценьнях — ілюзыі, на добрай волі іншых. Ужо час, каб мы ўсьведамілі сабе нашую ролю, як народу, білянс дасюлешніх высілкаў і зробленых памылак і пачалі новы пэрыяд адраджэньня. Трэба вытварыць проста новую супольную думку, каторая зьмяшчала б у сабе і пачуцьцёвыя і пазытыўна-рэальныя элемэнты, а такжа і энтузыязм арганізацыйнага высілку. Трэба напружыць усю сваю волю і энэргію для падняцьця матэр'яльнага і асьветнага стану нашага грамадзянства. Маем на ўвазе звычайную здаровую, абапёртую на сучаснай польска-беларускай сапраўднасьці, палітычна - грамадзка - культурную думку, да правядзеньня ў жыцьцё каторай павінен бязупынна імкнуцца ўвесь высілак беларускага народу.

Каб думку гэтую ясна апрацаваць, а нават акрэсьліць, прааналізуем коратка аснаўныя рысы Польскае Дзяржавы, якая паўстала з аднаго боку дзякуючы вытварыўшайся міжнароднай сытуацыі, з другога—дзякуючы высілку, волі і ахвярнасьці свайго народу і свайго Павадыра сьв. п. Маршалка Пілсудскага. Сяньня мэты і заданьні, а такажа будучы быт Польшчы апіраюцца на праводжаньні ў жыцьцё лёзунгаў, якія пранікаюць штораз глыбей у агульную сьведамасьць усіх палякаў, і зводзяцца да наступнага:

1) Польшча павінна быць мілітарна моцнай на зямлі, моры і ў паветры;

2) павінна быць духова сільнай праз стварэньне ўласных навуковых і гаспадарчых кадраў, а таксама сьведамага профэсіянальнага

## Кампартыя без . . . бальшавікоў.

Маскоўскі корэспондэнт „Социалистическаго Вѣстника“, які зьяўляецца органам меншавікоў на эміграцыі, дае вельмі цікавую характарыстыку цяперашніх настрояў у СССР.

„Соц. Вѣстникъ“ піша:

— Хіба што найцікавейшым зьявішчам у нашым савецкім жыцьці ёсьць цяпер эвалюцыя настрояў сярод партыйцаў і сярод беспартыйных *спэцаў*. Настроі гэтыя літаральна мяняюцца з гадзіны на гадзіну. Сярод камуністых, асабліва старых, — зьбянтэжанасьць, каторая пераходзіць у адных—у гнеў, у другіх—у паніку.

ВКП (б) аканчальна абяртаецца ў „Наркамат асаблівага назначэньня“. Тое, што было замкнута ў дужкі (б) і што павінна было напамінаць аб мінулым партыі, аб яе гераічным пэрыядзе, цяпер, як непатрэбнае, ліквідуецца.—„Бальшавікі ўжо ня ў дужках, а за рашоткай“,—з горычу сказаў мне, — сьведчыць корэспондэнт „Соц. В.“, — адзін стары бальшавік, калі гутарка зайшла аб паходзе Сталіна на астаткі „старое гвардыі“. *ВКП без бальшавікоў* — гэткі вось сэнс найнавейшага партыйнага курсу Сталіна.

Расправа Сталіна з Енукідзе тут шмат каму напомніла расправу Гітлера з Рэмам. Верныя ці няверныя офіцыяльныя цьверджаньні пра „моральны расклад“ Енукідзе, пра яго балерынаманію і вольнае абыходжаньне з казённымі грашыма — справа ня ў гэтым.—Дапусьцім,—казаў мне адзін камуністы, — што ўсё гэта так і што Енукідзе пацярпеў ня толькі за сваю мягчыню ды пакрываньне меншавікоў і опозыцыянэраў, а і за розныя штучкі. Ведама-ж, Сталін ведаў пра гэта і раней, але заплюшчваў вочы і ўсімі мерамі ўсё гэта пакрываў, пакуль не рашыў зьліквідаваць свайго старога прыяцеля, падобна да таго, як Гітлер зьліквідаваў Рэма пад сосам моральнага абурaньня.

Гэткія словы прыходзіцца чуць нярэдка, як нярэдка прыходзіцца чуць і пра тое, што „Сталін перайшоў на палажэньне Паўла І-га“. Пасьля забойства Кірава, ён нікому, кажуць, не дае веры, нават з найбліжэйшага абкружэньня. У кожным з прыбліжаных ён гатоў бачыць „графа Палена“. Гэтак Крэмль робіцца падобным да Інжынернага замчышча. Сталін кіраваў страхам, *цяпер страх пачынае кіраваць Сталіным. Ён баіцца сваіх і гатоў зрабіць стаўку на чужых.*

Тост за беспартыйных зьявіўся неспадзяванкаю для вас, за граніцай, але не для нас. Новыя ніці працягнуліся ад Сталіна да спэцаў, спэцы ізноў пачынаюць адчуваць сваю соцыяльную вагу; пры гэтым ня мае ніякага значэньня тое, ці яны маюць у кішані партыйны білет, ці не. У істоце справы яны даўно ўжо ў душы беспартыйныя бальшавікі, — паводле тэрміналёгіі Сталіна. Адзін з іх нядаўна са мною пайшоў на шчырую гутарку. Спэц, як спэц, але чалавек наглядчывы і разумны. Вось яго гутарка:

— „У пачатку генэральнае лініі нацярпеліся страху нямала, што там казаць. Кладучыся спаць, стаўлялі каля пасьцелі сундучок з порцем і мылам. Дый не таму, што грахі за сабою чулі, а таму, што тады-ж спэцаў хапалі і ліквідавалі без разбору. Цяпер я нічога не баюся, сплю спакойна, а няхай вось старыя бальшавікі стаўляюць каля пасьцелі сундучок! Факт, што мы, беспартыйныя спэцы, чуем сябе шмат бліжэй да нашага павадыра, чымся шмат і шмат якія старыя камуністыя; яны глядзяць назад, а мы — наперад. Яны баяцца яго „здрады“, а нам дарагі яго рэалізм. Яны аб сусьветнай рэвалюцыі плачуць, а нам Сталін вярнуў нашу радзіму маці. Вось са мною якое здарэньне было: сустрэўся я пасьля забойства Кірава з старым прыяцелем з ленінскае гвардыі; выказваю яму сваё абураньне з прычыны тэрорыстычнага акту, а ён, замест падзякі мне, злосна блiснуў вачыма з-пад акуляраў і прасычэў: „Рабы!“ Не на забойцаў з Зіноўеўскага ахвосьця, а на мяне засердаваў! Не таму, ведама-ж, што гэты стары бальшавік быў тэрорыстым і вітаў забойства Кірава, а таму, што ён мае абураньне, абураньне беспартыйнага, лічыў рэакцыяй раба. Урэшце, хоць ён і тэрорысты, але напэўна лічыць Сталіна крыніцаю ўсіх ліхаў і бедаў. Гэта цяпер характарна для настрою старых бальшавікоў. Дык і што-ж Сталіну лічыцца з гэтымі настроямі, ці раўняцца па камсамоле, які наскрозь праваняў меншавізмам? Не глядзеце на мяне гэтак: якраз меншавізмам, бо ўсе гэтыя балбатні пра нацыяналь-бальшавізм, пра тэхнакратыю і г. д.—усё гэта, выбачце, меншавізм. Сталін аб дзяржаве думае, а яму чорт ведае чым у нос тыкаюць, палкі ў колы ўстаўляюць. Мы гэта разумеем і яму спачуваем. Сталін наш?“.

## Чырвоная паншчына.

Маскоўскі лейб-орган камуністычнае партыі — „Правда“ піша:

„У Беларусі, каля Магілёва, пастух *совхозу* „Вейна“ Савасьцееў пасьвіў сов-хознае быдла. Раптам падляцеў на жарабцы дырэктар совхозу Абрамчык. Пастух не агледзеўся, як бізун Абрамчыка сьвіснуў і сьцебануў яго па твары. Савасьцееў пасьпеў толькі затуліць твар рукамі. Абрамчык далей сьцёбаў яго бізуном па руках і па плечах.

Работнікі совхозу патрэбавалі пацягнуць дырэктара Абрамчыка да адказнасьці. Але Абрамчыка ўзяў пад сваю абарону палітаддзел. Палітаддзел склікаў „партгрупу“ і партгрупа „патаварыску“ абвінаваціла Абрамчыка ў „нячуткасьці“. Работнікі склікалі свой агульны сход. Але палітаддзел „націснуў“ і работнікі ня мелі адвагі яму пярэчыць.

Пажаліліся ў магілёўскі райком. Райком... узяў Абрамчыка пад сваю абарону. Паслалі, нарэшце, жалабу „Правде“. Два корэспондэнты „Правды“ праверылі жалабу і пішуць, што *гэта ня першы выпадак у совхозе „Вейна“* (курсыў наш — Рэд.): „можна прывясьці шмат прыкладаў антысавецкага адношаньня дырэктара Абрамчыка да работнікаў“, а „апякуны Абрамчыка“ ўвесь час бароняць яго ад адказнасьці“.

## Новыя пагрозы Муссоліні.

Як піша „Дэйлі Мэйль“, Муссоліні ўчора заявіў, што Італія адмовіцца ад намеру захапіць Абісінію, калі Ліга Нацыяў прызнае Італіі мандат над паўночнай часткаю Абісініі. Трэба думаць, заявіў Муссоліні, што Ліга Нацыяў, пасьля разгледжаньня мэмор'ялу, які прыгатаўляецца італіянскім урадам, прызнае Італіі такі мандат. Калі нэгус з свайго боку згодзіцца з такім рашэньнем Лігі Нацыяў, італьянскія войскі, заняўшы паўночныя акругі Абісініі, створаць там рад гарнізонаў у характары паліцыйнай стражы.

Муссоліні заявіў адначасна, што эвакуацыя італіянскіх войскаў з Афрыкі без перахода імі граніцы Абісініі зусім немагчыма.

Калі-ж Ліга Нацыяў не дазволіць звхапіць Абісінію Італіі, апошняя будзе змушана далучыцца да блёку эўрапэйскіх „незадаволеных дзяржаваў“, г. зн. да Нямеччыны і Вэнгрыі.

## Манэўры Чырвонай Арміі ў БССР.

Як паведамляюць з Масквы, у Савецкай Беларусі адбыліся манэўры Чырвонай арміі пры ўчасьці камісара Ворошылава. Наркомабароны ў прысутнасьці камандзіра беларускага ваеннага вокругу Іборэвіча зрабіў інспэкцыю распалажаных у Беларусі часьцяў чырвонай арміі, зьвярнуўшы спэцыяльную ўвагу на авіофлёт.

## Трагічная сьмерць бэльгійск. Каралевы.

28 г. м. на дарозе Кусснахт-Люцэрн здарылася самаходная катастрофа, у часе каторай пагібла бэльгійская каралева.

У часе катастрофы самаходам кіраваў сам бэльгійскі кароль, а шофэр сядзеў ззаду. Прычыны катастрофы ня ведамы. Ведама толькі, што самаход рэзка павярнуў у бок і наскачыў на грушу. якая расла пры дарозе. Каралева забілася на месцы. Кароль лёгка ранены.

## Бульба і памідоры.

Бульбу, як і памідоры можна сягоньня бачыць на стале і багатых і бедных людзей. Тымчасам шмат прайшло часу, пакуль гэтыя прадукты «заваявалі» сабе гэткае пашыранае палажэньне ў Эўропе. Бульба папала ў Эўропу з Пэру (Паўдзённая Амэрыка) у сярэдзіне XVI ст. ў Англіі, пасьля ў XVIII стаг. ў Шотляндыі Богэміі, Прусіі, Саксоніі і Эльзасе.

Памідоры папалі ў Эўропу з Амэрыкі, праз Гішпанію і Партугалію. Але доўгі час памідор лічыўся расьлінаю для хараства. У страву яго пачалі ўжываць не раней, як у 1788 годзе. Яшчэ ня вельмі даўно памідор у Парыжы лічылі за рэдкасьць. У пачатку трэцяе рэспублікі, пасьля вайны 1870 году, памідоры прадаваліся толькі ў магазынах сэзонных „прыкладаў“!

Цяпер у Парыжы сьвежых памідораў ня бывае на рынку толькі два-тры месяцы, калі іх замяняюць кансэрвы.

## Аб лёце птушак.

Спасьцярогі і досьледы паказваюць, што птушкі ў лёце амаль ня ўступаюць самалётам. Ластаўкі, прыкладам, могуць праляцець каля 250 кілямэтраў у гадзіну, а некаторыя птушкі лятуць са скорасьцю 300 кілямэтраў у гадзіну. Павальней лятуць вароны—50 кілямэтраў, шпакі — 75 кілямэтраў у гадзіну. Таксама птушкі пры лёце могуць падымацца вельмі высака, прыкладам, дзікія качкі падымаюцца на тры кілямэтры ўгару, вароны на 4 кілямэтры, а некаторыя птушкі шмат вышэй. Нічога тады дзіўнага, што пры адлёце ў вырай птушкі пералятаюць і высокія горы, напатканыя ў дарозе.

## Што рабіць, каб была моцная скура?

Бярэцца $1/4$ кварты ляннога алею, 30 грамаў шмальцу, 15 грамаў воску і 10 грамаў смалы. Усё гэта распусьціць на агні, добра вымяшаць і паставіць каб астыла. Гэтай мешанінай трэба смараваць боты, рамні і т. п. Скура робіцца ад гэтага мягкай, моцнай і не прапушчае вады.

# Гаспадарчы аддзел.

### Як дабіцца добрай якасьці валакна?

(працяг).

*Мачэньне лёну.* Гэты спосаб найчасьцей у нас спатыкаецца. Пасьля адбіцьця галовак лён сьцелюць у вільготных месцах і ў такім стане пакідаюць на 2—6 тыдняў, каб на яго дзеялі дождж, раса, імгла і іншыя перамены атмасфэры. Калі пасьля сланьня лёну пачынаецца сухая пагода, то карысна яго час-ад-часу паліваць вадою. Лён такім спосабам вымачаны завецца сланцом. Канец рашэньня можна пазнаць па выгляду лёну: лён згінаецца ў дугу і ў некаторых месцах ад кастрыцы самачынна адстае валакно; але для пэўнасьці лепей рабіць пробы, аб якіх гаварылася раней.

Калі разглядаць розныя спосабы мачэньня лёну паводле атрыманай якасьці валакна, то трэба прыйсьці да наступнага вываду: 1) найлепшым спосабам мачэньня лёну гэта мочка яго ў мачыле з праточнай вадою, 2) пазьней—мачэньне лёну проста ў рэчцы, 3) меней добрым спосабам ёсьць мачэньне яго ў мачыле са стаячаю вадою і 4) урэшце найгоршым спосабам зьяўляецца Мачэньне, якое дае так зв. лён сланец.

Ёсьць яшчэ штучныя спосабы мочкі, але аб іх мы гаварыць ня будзем, бо яны вельмі трудныя пры ўмовах нашай вёскі.

**Сушка лёну пасля мачэньня.**

Пасьля тато, як лён належна вымачыцца, трэба яго зараз-жа вынясьць з вады і разаслаць на полі для сушэньня. У часе сушэньня лён адначасна выбельваецца. Час сушкі бывае розны; залежыць ён ад стану пагоды і ад дакладнай мочкі лёну. Меней вымачаны лён павінен сушыцца даўжэй.

Канец сушэньня пазнаецца наступным спосабам: бяруцца сьцеблы лёну з розных месцаў і робіцца спроба здыманьня валакна. Калі валакно па ўсяму сьцеблу адстае лёгка, то сушэньне лічыцца гатовым. Належна высушаны лён трэба зараз-жа прыбраць. Асабліва гэта важна, калі пагода няпэўная. Калі-ж пагода зусім добрая, то лён можна пакінуць на полі яшчэ на некаторы час, каб болей выбеліўся.

Калі лён такім спосабам добра высушаны, то можна зараз-жа прыступіць да далейшай яго апрацоўкі. Аднак у гэтую пару сяляне нашыя звычайна ня маюць часу ды і не заўсёды пагода ў нас такая, каб можна было лён высушыць на сонцы і зараз-жа прыступіць да церця. Звычайна далейшая апрацоўка лёну пакідаецца на позьнюю восень, а за гэты час лён вільгацее і ўжо не надаецца да церця бяз папярэдняй штучнай сушкі. Сушаць у нас лён перад церцем у звычайных печах, або ў спэцыяльна да гэтага зробленых сушнях. У першым і ў другім прыпадку лён сушыцца пры высокай тэмпэратуры, што вельмі псуе якасьць валакна. Часта бывае, што добра вымачаны лён канчальна псуецца неадпаведнай сушкай. Сушыць лён трэба пры мернай тэмпэратуры і ніколі не дапушчаць, каб тэмпэратура падымалася вышэй 50—60 градусаў. Ад сільнае жары лён становіцца нямоцным і крохкім. Для апальваньня сушняў найлепш ужываць асінавыя дровы, бо смалістыя дровы прыдаюць валакну чырванаваты колер, а бярозавыя сільна копцяць.

Апрача мочкі і сушэньня на якасьць валакна сільна ўплывае і спосаб апрацоўкі. Ужываныя ў нас да гэтага часу шчэлявыя церніцы нічога няварты. Валакно на гэтых церніцах перарываецца і, такім чынам, атрымліваецца шмат пакулі. Апрача таго на гэтых церніцах праца даўгая і марудная.

Непараўнальна лепш гэтую працу выканаюць дзераўляныя двухвальцовыя церніцы, а найлепей, калі гэтыя церніцы жалезныя. Праўда жалезныя церніцы даволі дорага каштуюць, затое дзераўляныя могуць зрабіць свае вясковыя сталяры.

Справа абробкі лёну настолькі важная, што Віленскае Лянярскае Таварыства рашыла пабудаваць у некаторых месцах спэцыяльныя паказальныя сушыльні лёну з поўным камплектам прыладаў, патрэбных для рацыянальнай апрацоўкі лёну. Нашыя сяляне павінны таксама паважна аднесьціся да гэтай справы і рабіць усё магчымае ў гэтым кірунку.

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.